*«За вольную ды незалежную Беларусь!»*

**№3**

# Гоман

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

красавік—травень 1991 г.

кошт 30 кап.



Цікавыя людзі мы — беларусы!

Трэба прызнацца, што якое б ліха навокал нас і з намі не рабілася, якіх бы мы не перажывалі нягод і крыўд — мы гэтага як бы не бачым, а калі і бачым, то ліха церпім ды чакаем, што нехта прыйдзе і гэтае наша ліха пабярэ з сабою.

І праўда, вечна хто-небудзь і як-небудзь, а прыходзіў і намі апекаваўся, хоць нашага ліха і не забіраў.

Быў маскоўскі цар, былі ў нас пасланыя ім усялякія чыны: земскі, вураднік, стражнік. Усе гэтыя чыны намі «апекаваліся», а мы шчыра служылі ім, як нявольнікі, ды, уздыхаючы і заціскаючы кулакі, стараліся сябе ўгаварыць, што так і трэба, каб хтось панаваў, а часта казалі, што гэта так бог даў. А самі ж мы і пальцам не кіўнулі, каб гэтым сваім апекунам паказаць іх належнае мейсца.

Але рэвалюцыя зьмяла ў сваім ходзе цара, панясьліся ў сьвет новыя воклікі будаваньня новага незалежнага жыцьця ўсім народам. А мы як бы нішто і ні ў чым. Пасьля царскіх чыноў прыйшлі бальшавіцкія чыны не горш сваіх папярэднікаў, прыйшлі і павялі сваю гаспадарку ў нас, а мы глядзелі і чакалі, што нехта прыйдзе ды бальшавікоў прагоніць...

*Янка Купала*
*«Больш самачыннасьці»*
*«Беларусь»,№2*
*22 кастрычніка 1919г.*

**...Сацыяльная рэвалюцыя, што разгарэлася крывавым пажарам на ўсходзе Еўропы — у Расіі — і цяпер яшчэ палае ўсёпаядаючым полымем, стараецца ў сваім пабедным паходзе ніштожыць усялякія нацыянальныя перагародкі і злучыць пад чырвоным знаменем усе народы ўсяго сьвету.**

**Наскольки ёй гэта ўдаецца, пакажа будучыня, але пакуль што ўсе дзяржавы, апрача, разумеецца, Вялікарусі, усімі сіламі стараюцца адхрысьціцца ад гэтага раю. Нацыянальная рэвалюцыя, паставіўшая сабе мэтай вызваленьне ўсіх нацый, быўшых у паднявольлі ў дужэйшых дзяржаваў, ідзе другімі шляхамі да вызваленьня чалавека зь вечных путаў няволі. Яна змагаецца за тое, каб кожны народ пастанаўляў сам аб сваёй долі і быў гаспадаром свайго краю, свайго багацьця. Нацыянальная рэвалюцыя не страміцца к аднаму богу на зямлі і не зьбівае у адну кучу ўсіх народаў пад адзін сьцяг.**

*Янка Купала*
*«Справа незалежнасьці Беларусі за мінулы год»*
*«Беларусь» №8 (64)*
*14 студзеня 1920г.*

## У нумары:





**Бабруйскі Мікалаеўскі сабор**

зруйнаваны ў 1961 годзе.

На рэштках Сабора пабудаваны водна-спартыўны комплекс. Фота-архіў «Гомана».



*Натальля Арсеньнева*

# УСКРЭСЬНІ

Ён уваскрос, ён дзесь між намі,
Ён там, дзе ў срэбным пыле лоз,
у сіней смузе над палямі
вісіць вясна
Ён уваскрос,
Ускрос, і зноў на Беларусі
перад сабой ідзе Хрыстос...
Здымае з душ настылых вусьціш,
благаслаўляе солрадзь кроз.
Сяліб раскіданых прысады,
муры нязьлічаных вязьніц
і тых,
што пагублялі радасьць
па кроплі кропля й дзень пры дні...
Ідзе Хрыстос... Над ім дугою
ўстае ґусты блакіт нябёс,
а ногі ў ранах незагойных
кладуць сьляды на шэрань рос...
Дык прыпадзем
і вусны спалім
на тых сьлядох, што Бог-Хрыстос
губляе моўчкі йдучы ў далеч,
бо Ён ускрос,
Ён уваскрос!
Няхай над родным папялішчам
усьцяж галосіць нема лес
няхай крывавяць нас і нішчаць —
ускрэсьне Край,
бо й Ён ускрос...
Устань-жа, устань,
Ускрэсьні сяньня
мой Край, як уваскрос Хрыстос!

*1953*

# Вялікодныя ўрачыстасьці

Штогод усё больш шырока праходзяць рэлігійныя ўрачыстасьці, прысьвечаныя найвялікшаму хрысьціянскаму сьвяту Вялікадню (Пасхе).

Як вядома, сьвята гэтае займае цантральнае мейсца ў хрысьціянскім календары. Сёлетняя ж Пасха сталася асабліва ўрачыстай, супала зь іншым праваслаўным сьвятам — Дабравесьцем.

Набажэнствы ў Бабруйску праходзілі ў некалькіх храмах, сярод якіх — новаадчыненая Белая царква.

Усьцешна зазначыць, што апошнім часам такія падзеі ўсё больш прыцягваюць увагу моладзі. Гэта добры знак і надзея на вяртаньне нашага грамадзтва да спрадвечных агульначалавечых маральных і духоўных запаветаў.

# Адраджаюцца цэрквы

14 кастрычніка летась на Пакровы на ўскрайку Глуску каля новага жыльлёвага мікрараёна адбылася закладка Сьвятой Богаяўленскай царквы. У прысутнасьці шматлікіх удзельнікаў урачыстасьці, як веруючых, так і ня веруючых епархіяльны архіепіскап Магілёўскі і Мсьціслаўскі Максім, настаяцель Магілёўскага Катэдральнага сабора айцец Генадзь, настаяцель Сьвятой Богаяўленскай царквы Глускага прыходу іерэй Вячаслаў і інш. асьвяцілі мейсца збудаваньня царквы, сімвалічны крыж і камень, закладзены ў кут падмурка царквы.

Архіепіскап Магілёўскі і Мсьціслаўскі Максім выступіў з казаньню, у якой выказаў дзячэньні глушчанам за іхныя вымогі ў адраджэньні веры і збудаваньні царквы. Разам зь ёй адродзіцца й чалавечая душа, паменьшае ў ёй злых учынкаў і памкненьняў. Ён заклікаў жыхароў Глуска дапамагчы будаўніцтву храма сваім непасрэдным удзелам у талацэ,«а блаславёны камень, закладзены сёньня станецца непахіснай асновай храма ў імя Айца і Сына і Сьвятога Духа».

Будучая царква мецьме зьверху выгляд крыжа з двума вялікімі купаламі і пяцю меньшымі. Да верхняй кропкі вышыня Храма дастане 39 метраў. Гэта будзе самае высокае збудаваньне ў Глуску.

*Наш карэспандэнт*

# Вялікдзень у беларусаў-каталікоў

У ноч з 30 на 31 сакавіка ў Бабруйскім касьцёле сьв. Пятра і Паўла адбылася ўрачыстая літургія і сьвятая імша з нагоды Вялікодных сьвятаў.

Па самых сьціплых падліках, у касьцёл на Вельканоц прыйшло блізка 300 вернікаў.

У казані, зь якой ксёндз Анджэй Шчэнсны зьвярнуўся да прыходу, ён сказаў:«Ня зычу вам ані здароўя, ані дабрабыту, ані грошай, ані выгод, але, найперш, каб у вашых сэрцах уваскрос мёртвы дагэтуль Ісус Хрыстос, каб паўстаў ён жывым з грobу, якім ёсьць сэрцо, закрытае для любові і веры хрысьціянскай».

# Хрысьціянскія місыянеры з Гамэрыкі

23-24 красавіка сёл. намаганьнямі грамады бабруйскіх евангельскіх хрысьціян пры ўдзеле амерыканскае хрысьціянскае суполкі «Новае Жыцьцё — 2000» былі зладжаны вечарыны, прысьвечаныя біблейскай евангельскай тэматыцы.

Амерыканскія місыянеры распавядалі шматлікім слухачам, што сабраліся ў залі Палаца Культуры ВА «Бабруйскдраўніна» аб сутнасьці хрысьціянскага вучэньня, аб ролі і асобе Ісуса Хрыста, адказвалі на пытаньні. У адзін зь вечароў дэманстраваўся фільм «Жыцьцё Ісуса».Кожны прыйшоўшы атрымаў у падарунак кніжку «Новага Запавету».

# II-і зьезд БНФ

23-24 сакавіка ў Менску адбыўся 2-і зьезд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». У яго рабоце ўзялі ўдзел 443 дэлегаты з усіх рэгіёнаў Рэспублікі, а таксама з суполак БНФ па-за межамі Беларусі, у прыватнасьці зь Віленшчыны, Беласточчыны, Масквы, Ленінграду і інш.

У якасьці дэлегатаў і гасьцей у рабоце зьезду удзельнічалі прадстаўнікі новых партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў: Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі (АДПБ), Беларускай сацыяль-дэмакратычнай Грамады (БСДГ), Беларускага сялянскага саюзу (БСС), Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі (НДПБ), Сацыяль-дэмакратычнай партыі Беларусі (СДПБ), Дэмакратычнага Саюзу (ДС), Таварыства беларускай мовы (ТБМ), Беларускага экалягічнага саюзу (БЭС), Сацыяльна-эканамічнага саюзу «Чарнобыль», Задзіночаньня беларускіх студэнтаў, Менскага гарадзкога бацькоўскага камітэту, Уніяцкай грамады, Шляхецкага зьвязу, Талакі, Мартыралёгу Беларусі, Беларускай грамадзянскай рады, Партыі незалежнасьці Беларусі й некаторых іншых згуртаваньняў.

У зьезьдзе таксама ўдзельнічалі 77 дэпутатаў Саветаў розных узроўняў. Прывітаць БНФ, падзяліцца ўласным вопытам прыехала 170 гасьцей з Балтыйскіх краінаў, Расеі, Украіны, Грузіі, Польшчы, ЗША. У якасьці назіральніка прысутнічаў прадстаўнік ЦК КПБ.

На парадак дня зьезду былі вынесеныя пытаньні аб прыняцьці новага Статуту Фронту, праграмнае заявы й перавыбарах кіраўніцтва.

Пасьля благаслаўленьня зьезду сьвятарамі праваслаўнае, евангельскае й грэка-каталіцкае канфэсіяў з прывітальным словам выступіў Васіль Быкаў. Ён сказаў, што нацыя перажывае ўсеагульны духоўны й эканамічны крызіс, што ўратавацца, як народ і нацыя мы можам толькі ўласнымі сіламі.«Ніхто нас не ўратуе, калі мы нарэшце не спазнаем маштабы нашае бяды, а таксама памеры нашай сілы, якая закладзеная ў фізічнай і духоўнай аснове нашага этнасу, у нашай шматпакутнай гісторыі, ва ўсім, што нам перадалі ў спадчыну нашыя продкі разам з нашай багаслаўлёнай зямлёю».

«Веліч наше мэты, унікальны гістарычны шанец вымагаюць ад нас наважыцца на самае вялікае, якім зьяўляецца суверэнітэт, дэмакратыя, свабода і адраджэньне. Мы гэта павінны разумець з гранічнай выразнасьцю, бо адступаць нам няма куды, ззаду бездань і нябыт - і для нас, і для нашых дзяцей, і для грамадзтва, і для нашае шматпакутнае нацыі».

З палітычным дакладам выступіў старшыня Сойму БНФ Зянон Пазьняк. Ягоная прамова, у якой былі падведзеныя вынікі дзейнасьці Фронту за два з паловаю гады існаваньня, вызначалася незалежніцкім пафасам.

Вызначаючы прыярытэты руху, на першае мейсца Зянон Пазьняк паставіў суверэнітэт, на другое - антыкамунізм. Далей ён сфармуляваў асноўныя мэты руху, якімі зьяўляюцца адраджэньне народнага жыцьця й культурна-нацыянальнае сьвядомасьці праз інтэграцыю ўсяго рэспубліканскага грамадзтва й аднаўленьне грамадзянскае супольнасьці.

У другі дзень работы зьезду была прынята Праграмная заява БНФ. Яе вызначае канструктыўнасьць, у ёй выкладзена прывабная канцэпцыя будучае Беларусі, якая павінна стаць незалежнай дзяржаваю, а галоўнай каштоўнасьцю ў ёй - вольны чалавек.

Праз здабыцьцё суверэнітэту БНФ намагаецца вярнуць нашую Рэспубліку у сям'ю эўрапейскіх народаў, аднавіць яе маральныя, культурныя й сацыяльныя каштоўнасьці, стварыць сучасную эфектыўную сістэму адукацыі й мэдыцыны, дэмілітарызаваць яе, вярнуць мову, традыцыі й веру продкаў, аднавіць нацыянальную кансалідацыю. Адроджаная нацыя знойдзе паратунак ад наступстваў Чарнобылю, сама распарадзіцца плёнам свае працы й міжнароднай дапамогаю.

Дэкляраваўшы найвышэйшыя ідэалы - Свабоду, Незалежнасьць і Адраджэньне, БНФ прапанаваў праграму іхняга здабыцьця пад назваю «Шлях да Свабоды».

На зьезьдзе быў прыняты шэраг Ухвалаў (рэзалюцыяў) і Зваротаў па актуальных пытаньнях грамадзка-палітычнага жыцьця.

Ацэньваючы значэньне 2-га зьезду БНФ, трэба зазначыць, што ён меў канструктыўны характар, прапанаваў рэальную канцэпцыю будучыні Беларусі й яе здабыцьця, паказаў, што за два з паловай гады існаваньня Фронт стаў сур'ёзнай, на жаль, пакуль што адзінай на Беларусі апазіцыйнай рэжыму арганізацыяй. Згубіўшы за гэты перыяд у колькасьці, БНФ прыдбаў у якасьці. Асабліва гэтыя словы датычацца прадстаўніцтва Фронту ў Саветах.

Вызначыўшы на зьезьдзе сваё стаўленьне да кампартыі, дэлегаты канчаткова акрэсьлілі антыкамунізм руху. У кантэксьце красавіцкае рэформы цэнаў і прагнозу экспэртаў яшчэ большага ўсплеску дэфіцыту праз 1,5-2 месяцы, адкрыты антыкамунізм Фронту можа стаць вельмі прывабным для жыхароў Беларусі, якія ўжо праз 1,5-2 месяцы ачуняюць ад зьвязаных з рэферэндумам ілюзіяў.

*Паводле публікацыі «Навінаў БНФ»*

# Заметки стороннего наблюдателя

## по поводу одной бесплодной дискуссии

**Блізка двух месяцаў таму, напярэдадне ўсесаюзнага рэферэндуму на старонках бабруйскай раённай газеты «Трыбуна Працы» прайшла вострая і бескампрамісная палітычная дыскусія, якая была распачата лістом у рэдакцыю газеты дырэктара бабруйскага сяльгастэхнікума сп. Карпекіна (гл.«Трыбуна Працы» №11 ад 26 студзеня 1991г.і наступныя №№).**

**Упэўнены, што гэтая спрэчка не засталася па-за ўвагай нашых чытачоў, таму сьвядома ўнікаем пераказу думак апанентаў і якога-кольвечы каментару. Шчыра кажучы, вынік гэтае палітычнае дуэлі застаўся незразумелым: рэдакцыя раёнкі пасьпяшалася «зьвесьці партыю ў нічыю». Як нам падаецца — зарана. І таму на сваіх старонках мы друкуем**

Ну что, господа демократы? Получили? Ну, признайтесь,навешал вам Карпекин. Вы его давно схоронили...Ан, нет! Жив курилка! Воспрянул потрепанный Феникс, распушил пронафталиненные перья да еще матерком вас кроет, гражданской войной стращает. Впору от испуга в штаны наложить.

Вы ему свой аргументик, а он в ответ: дескать, неоригинально, господа, плагиат-с. Читайте вот Шафаревича, том такой-то, страница такая-то. У-у-у, начи-итанный! Да еще схематичностью мышления попрекает, контра. И самое обидное, что ведь прав. Нас-то целых семьдесят лет от этого самого мышления отучали. Результат налицо- «штампованные демократы». Впрочем, на поверку и его «колбаса», начиненная цитатами монархиста Солженицина, утописта Маркса и человеконенавистника Ульянова оказывается не менее пресной.

Роздано, как говорится, всем сестрам по серьгам. И вам, товарищ Вавуло, нужно еще очень серьезно работать над стилем. Вы ведь как пишете - двухстопным ямбом, а тов. Карпекин этого ну, никак не приемлет. Так что перестраивайтесь и слагайте свои вирши трехстопным дактилем, ну уж, в крайнем случае, анапестом да и то исключительно с женской рифмой!

Бедный, несчастный Коля Румянцев, позволь, я слезами омою твое детское веснушчатое лицо. Ты троечник, и не читаешь Бердяева, Карла Маркса, Ленина и Карпекина. И в этом твоя ошибка.

Ты еще юн, но уже развращен и обманут этими гадкими дядями, что лживо именуют себя «демократами». Ты молод и не знаешь, что самая опасная змея жалит хвостом, а главное оружие Карпекиных-их демагогия, которой трудно противостоять, ибо она не подчиняется законам нормальной человеческой логики.

Уверен, еще в начале, оппоненты Карпекина допустили принципиальную тактическую ошибку, на полном серьезе включившись в бесплодную полемику и водрузив тем самым на лысеющее чело борца с демократической проказой ореол мученика, этакого местного Христа от марксизма, страдающего за свои убеждения. Заштатный сталинизм взмыл на гребне популярности, и положение его сейчас весьма завидно. Будь я на месте Карпекина-немедленно просил бы за рубежом политического убежища в качестве диссидентствующего коммуниста.

Что же, достойный урок. Убеждающий кстати, что лучший метод борьбы в подобных случаях это отсутствие и избежание какой-либо борьбы. Как говорится: «собака лает, ветер носит». Предоставим Карпекиным умереть от старости. Ибо главное оружие против них-время. И в этом мой милый Коля Румянцев главное твое преимущество.

**Посторонний**



✦Мірскі замак *Фота Алеся Бобрыка*

# Гісторыя бабруйскіх вуліц




| | |
|---|---|
| Палігонная | Урыцкага |
| Альхоўская | Чангарская |
| Мураўёўская | Сацыялістычная |
| Раманаўская[1] | Савецкая |
| Баравая | Савецкая |
| Пушкінская | Пушкіна |
| Гарбатаўская, Тацьцянінская, Касьцельная *(1921)* | Кастрычніцкая |
| Інвалідная | Энгельса |
| Агародная | Піянерская |
| П'яная слабодка[2] | Р.Люксембург |
| Зьмітраўская | Талстога |
| Южная (Паўднёвая) | Сьвярдлова |
| Дзямідаўская | Камуністычная |
| Шасэйная, Парызкай камуны | Бахарава |
| Слуцкая | Дзяржынскага |
| Скобелеўская | К.Маркса |
| Адамаўская | Камсамольская |
| Сямёнаўская, Леккерта[3] | Маскоўская |
| Паліцэйская (?) | Інтэрнацыянальная |
| Сталыпінская[4] | ... |
| Мікалаеўская | Пралетарская |
| Гогалеўская | Гогаля |
| Казначэйская | Горкага |
| Менская | Мінская |
| Ант[illegible]аўская | Валадарскага |
| [illegible]ская | Леніна |

1—ад Дзямідаўскай да перакрыжаваньня зь Мікалаеўскай, далей — Баравая.

2—вуліца мела аднабаковую забудову й служыла гарадской мяжою

3—атрымала сваю назву ў гонар Мойшы Леккерта, дзеяча БУНДа.Была перайменавана ў пэрыяд «барацьбы зь бязроднымі касмапалітамі».

4—даўней вуліца пачыналася ад перакрыжаваньня сёняшніх Энгельса і Лібкнехта і цягнулася ўздоўж старых яўрэйскіх могілак (зараз - тэрыторыя гарпарку) да самых кар'ераў цагельнага завода Пружыніна (вазёры Копанка і Шаманка).

# Пажар 1904 году

Са школьных часоў большасьць з нас захавала ўяўленьне пра гісторыю, як пра навуку сумную ды малацікавую. Корпаюцца, маўляў, тыя небаракі-гісторыкі ў пажаўцелых паперках, чмыхаючы ад архіўнага пылу, шукаюць з рыдлёўкай даўно зьніклыя гарадзішчы,- сумна, адным словам. І толькі сапраўдны знаўца і заўзятар мінуўшчыны ведае, што гісторыя, як бы тая цудоўная краіна, заселена людзямі: слыннымі і невядомымі, добрымі і хіжымі, людзямі зь іх пачуцьцямі, радасьцямі і смуткам. Яшчэ цікавей, калі лёсы гэтых людзей атрымліваюць нечаканы працяг у жыцьці іншых нашчадкаў, у дні сёняшнім.

Менавіта такога кшталту гісторыя, якую я пачуў і запісаў ад Пятра Іосіфавіча Плеваko.

...Пра пажар 1904 году ў Бабруйску зараз наўрадці хто памятае. Між тым, падзея гэтая сталася для горада болей, як трагічнай: агнём была зьнішчана пераважная большасьць драўляных дамоў бабруйскіх мяшчанаў ад былой Паўднёвай (цяпер - Сьвярдлова) ажно да Менскай вуліцы.

Горад будаваўся з пачатку 19-га стагодзьдзя паўкругам за крапаснымі сьценамі на былых палігонах. Ад цэнтру-крэпасьці вуліцы разыходзіліся радыяльна, паказваючы накірункі на Слуцак, Глуск, Менск, Лукі, абягалі крэпасьць паўкругам (Палігонная, Мураўёўская, Альхоўская і інш.). Па стратэгічных меркаваньнях не дазвалялася ўзводзіць каменныя будынкі, нават вышыня цаглянага фундаманту абмяжоўвалася 50 см. Толькі за некалькі гадоў да новага 20-га стагодзьдзя ў Бабруйску зьявіліся некалькі цагляных пабудоваў, зь якіх цяпер згадаем перадусім трохпавярховую гасьцініцу Незабітоўскага (1898), якая перажыла пажар 1904г. і пратрывала да самых апошніх дзён, пакуль ня была зьнявечана рукамі савецкіх герастратаў.

Было лета 1904 году. Ліпень. Пятніца. К вечару крыху адпусьціла дзённая сьпёка, і гаспадыня па старой яўрэйскай завядзёнцы сьпяшалася дапекчы халы да заходу сонца. Муж меў гектар зямлі, на якім трымаў скаціну. Купляў каровы, авечкі, гадаваў, адкормліваў і зноў прадаваў. Тым і жылі. Тамсама на Паўднёвай вуліцы мясьціліся хата і невялікі яблыневы садок.

Вымеўшы хваёвым венікам зь печы, кабета аднесла залу ў сенцы ды адчыніла дзьверы, каб выходзіў куродым. Яна яшчэ завіхалася каля дзежы, калі ў сенцы дзьмухнуў вецер, і цэльны рой зыркіх жарынак закруціўся, узьнімаючыся ўгору. Праз колькі імгненьняў успыхнула саламяная страха. Ад ветру полымя перакінулася на адрыну, адтуль да суседняе хаты...

Полымя бушавала ў горадзе зь пятніцы да серады. З Асіповіч і Жлобіна тэрмінова прыбылі пажарныя цягнікі, але і яны не далі рады агню. Узьнятыя гарачым паветрам паперы Гарадское Ўправы знаходзілі пасьля ажно ў Любонічах. За пяць дзён горад выгарэў дашчэнту.

Асаблівую пікантнасьць сітуацыі надавала тое, што большасьць са згарэлых будынкаў была застрахавана. І Пецярбурскаму страхавому таварыству «Якорь» сталі пагражаць такія вялізныя выдаткі, якія няжартам абяцалі пусьціць з торбай і саму кампанію і яе ўладальнікаў.

Тэрмінова за вялікія грошы былі наняты лепшыя адвакаты, якія і вынайшлі байку пра тое, што горад загарэўся ... ад жарынкі, якая вылецела з трубы ішоўшага цягніка. Для кампаніі Лібава-Роменскай чыгункі гэткі абарот справы стаўся поўнай нечаканасьцю. Але, надзіва, знайшліся й сьведкі, якія пад прысягай паказалі, што ўсё было менавіта так.

Але і на гэтым нашая гісторыя не канчаецца. Калі сёньня йсьці па Інтэрнацыянальнай ўздоўж гарадскога парку, не даходзячы алеі з помнікам, прыглядзеўшыся, можна заўважыць разложысты куст бэзу. Яшчэ гадоў дваццаць пяць таму на гэтым мейсцы стаяла сядзіба вядомага ў Бабруйску гадзіньнікавага майстра Катоўскага, дарэчы роднага дзядзькі Рыгора Катоўскага - славутага героя грамадзянскай вайны. Жонка Катоўскага, трэба дадаць, якраз наймалася прыглядаць за скацінай да вышэйпамянёнага яўрэя-пагарэльца.

Тады ж да Катоўскіх хадзіў доўгі рудавусы тэлеграфіст са станцыі, заляцаўся ён да Катоўскай-дачкі. Так прыйшоўшы аднаго разу і прыняўшы чарку-другую, што падавала патэнцыяльнаму зяцю гасьцінная з гэтае нагоды гаспадыня, па чаў ён жаліцца, што вось, маўляў, з-за гэтага пажару наклалі на ўсю чыгунку вялізны штраф, а таму зьменьшылі жалаваньне, і што зь вясельлем, мусіць, прыдзецца пачакаць...

—Як жэ так?! - ускінулася без пяці хвілін цешча.— Ці ж Бог мяне вачыма абдзяліў? Няўжо я нічогенька не бачыла? Гэто ж я якраз тады каровы на валу пасьвіла: як цягнік ішоў, хата ўжо гарэла!

Пачуўшы гэта, ды ня будучы дурнем, пацягнуў тэлеграфіст разззлаваную бабу да начальніка станцыі, той - да начальніка чыгункі...Закруцілася судовае кола ў адваротны бок. На судзе Катоўская прысягнула на Бібліі, ды расказала, што бачыла. Кажуць, ёй зацікаўленыя людзі пяцьсот рублёў давалі. Вялі-і-ікія па тых часох грошы. Ня тое, што зараз.

**Алесь Лес**



# Бабруйская крэпасьць ізноў у аблозе

Калі Бог хоча пакараць чалавека, ён забірае ў яго розум. Такі чалавек, звычайна, бярэ ў рукі сякеру, лезе на дрэва ды пачынае рубіць якраз той сук, на якім сам сядзіць. Астатнія людзі беспамылкова па гэтых яго дзеяньнях, вызначаюць, што перад імі-дурань, але сам жа ён сябе такім ня лічыць, пагардліва пазіраючы навокал, ён наадварот уважае сябе за вялікага разумніка, да таго ж яшчэ спрытнейшага ад усіх: ён прыдбацьме сабе такі неабходны ў гаспадарцы сук ды яшчэ з найменьшымі вытворчымі затратамі, бо рубіць самы найбліжэйшы да сябе.

Менавіта так гіне нацыя, пазбаўленая гістарычнае самасьвядомасьці ня гледячы ў будучыню і ня ведаючы мінулага, народ коціцца ў бездань сацыяльнага і культурнага заняпаду, бо духоўная галеча-верны шлях да галечы матэрыяльнай.

Варварства, дзікунства, ці можа вар 'яцтва,-якім словам азначыць дзеяньні тых бязродных манкуртаў, што крадуць, адбіваючы з муроў крапасных бастыёнаў старажытную цэглу, каб будаваць зь яе сабе гаражы? Тое, што не зрабіў Напалеон, зрабіцьмуць сучасныя аматары дармаўшчынкі: Бабруйская крэпасьць сустрэне свой 200-гадовы юбілей у лепшым выпадку ў выглядзе руінаў, а ў горшым...

Гіне гістарычна-культурны помнік, пра які неўзабаве экскурсаводы будуць казаць: вось рэшткі бабруйскай крэпасьці, калісьці самай моцнай у Эўропе, стаўшай ахвярай цывілізаванага варварства, а вось гаражы цывілізаваных дзікуноў, пабудаваныя з калісьці лепшай у Эўропе цэглы....

Ганьба і сорам! Ці здолее хто-небудзь узяць пад ахову старажытныя муры і абараніць ад скону нашу гістарычную памяць ці яна загіне ва ўласьніцкіх пабудовах савецкіх прапаршчыкаў 'ды іншых жлабоў?

**ГОМАНАВЕЦ**

# Кірыліца ці лацінка?

Багата каму зараз гэтае пытаньне падаецца штучным і надуманым. Гэто, аднак, далёка ня так.Беларуская мова гістарычна мае дзьве графічныя асновы: кірыліца (гражданка) і лацінка, кажная зь якіх дастаткова поўна адпавядае яе фанетычнаму ладу.

І калі зь першай усё больш-меньш зразумела, то другая мае ў наш час як шчырых заўзятараў, так і ня меньш шчырых ворагаў.

Кірылічнае пісьмо прыйшло да нас зь Бізантыі разам з хрысьціянскімі місыянерамі недзе ў X стагодзьдзі і паўстала з альфабэту царкоўнаславянскага,які, у сваю чаргу, паходзіць ад старажытнагрэцкае абэцэды. Наўрад ці варта казаць зараз, што кірылічнае пісьмо атрымала ў славянскім сьвеце шырокі распаўсюд. Кірылічнымі літарамі вялікі беларускі асьветнік Скарына друкаваў свае кнігі, кірыліцай напісана большая частка беларускіх летапісаў, помнік беларускае гісторыі Статут Вялікіга Княства Літоўскага. Мадэрнізаванай кірыліцай, што атрымала назву «гражданка» карыстаемся сёньня і мы з вамі.

Лацінская ж графіка вядзе свой радавод ад сярэднявечнае лаціні і прыйшла на Беларусь праз Польшчу. Памыляюцца, аднак, тыя, хто лічыць, што лацінка займае нязначнае мейсца ў беларускай гісторыі. Траха не ўвесь перыяд 17 - 20 стагодзьдзяў — гэта перыяд лацінкі. Творчасьць Дуніна-Марцынкевіча, Багушэвіча, «Мужыцкая Праўда» Кастуся Каліноўскага — гэто таксама прыклады выкарыстаньня лацінскае графікі.

Яшчэ на пачатку нашага стагодзьдзя праблема ўжытку аднаго з двух беларускіх альфабэтаў паўстала перад дзеячамі адраджэнцкага «нашаніўскага» перыяду.Пра тое, што пытаньне гэтае зусім ня было простым сьведчыць апытаньне, якое ў 1910 г. правяла рэдакцыя газэты «Наша Ніва» ды іншыя рэдакцыі ў пазьнейшым часе. Справа гэтая знайшла свой водгук і ў беларускіх навуковых установах. 14 лістапада 1926 году ў Менску Інбелкульт склікаў Акадэмічную канфэрэнцыю дзеля рэформы беларускай азбукі і правапісу, на якой, між іншым, абгаворвалася і думка аб замене гражданкі лацінкай.

Аналагічнае апытаньне ў канцы 1930 году правяла між сваіх чытачоў і газэта «Шлях Моладзі.» Вынік стаўся досыць цікавым, і з таго часу ў кожным з нумароў газэты прыблізна палова матэр'ялаў друкавалася лацінкай, палова - гражданкай.

Чаму ж аднак пытаньне гэтае скрозь дзесяцігодзьдзі паўстала ізноў, пагражаючы зьмяніць выгляд беларускіх газэтаў, часопісаў, кніг?

Справа альфабэту ў беларускім нацыянальным жыцьці, такім чынам, ня простая. Сам гістарычны лёс нашае Бацькаўшчыны скамплікаваў яе, як адну са шматлікіх праяваў глыбокага і балючага дуалізму ў беларускай культуры, якая зазнала ўплыў дзьвух эўрапейскіх культурных плыняў: усходняй і заходняй. Зрэшты, сёньня праблема выкарыстаньня лацінкі ці кірыліцы — гэто праблема прыналежнасьці беларускае нацыі да ўсходняй ці заходнеэўрапейскай супольнасьці.

І яшчэ адзін асьпект праблемы. У наш час, час адраджэньня беларускае мовы цалкам зразумелай, лагічнай і абгрунтаванай падаецца тэндэнцыя да разьвіцьця яе ўласнага творчага патэнцыялу, імкненьне захаваць і абараніць яе сваеасаблівасьць і самабытнасьць, зрабіць яе як мага больш непадобнай да іншых моваў, асабліва роднасных і блізкіх па гучаньню, выпрацаваўшы, такім чынам, на будучыню «імунітэт» супроць асіміляцыі і засьмечваньня лексікі іншамоўнымі запазычэньнямі. Безумоўна, самым прыдатным варыянтам сталася б выпрацоўка нейкае дагоднае сынтэзы,ці стварэньне свайго арыгінальнага беларускага альфабэту. Ажно гэта — справа будучыні.

**Алесь БОБРЫК**

| | | |
|---|---|---|
| Aa | Аа | (а) |
| Bb | Бб | (б) |
| Cc | Цц | (ц) |
| Ćć | — | (ц ') |
| Čč | Чч | (ч) |
| Dd | Дд | (д) |
| Ee | Ээ | (э) |
| Ff | Фф | (ф) |
| Hh* | Гг | (h) |
| Gg** | — | (g) |
| Jj | Йй | (j) |
| Ii | Іі | (і) |
| Kk | Кк | (к) |
| Łł | Лл | (л) |
| Ll*** | — | (л ') |
| Mm | Мм | (м) |
| Nn | Нн | (н) |
| Ńń | — | (н ') |
| Oo | Оо | (о) |
| Pp | Пп | (п) |
| Rr | Рр | (р) |
| Ss | Сс | (с) |
| Śś | — | (с ') |
| Šš | Шш | (ш) |
| Tt | Тт | (т) |
| Uu | Уу | (у) |
| Ŭŭ | Ўў | (w) |
| Vv | Вв | (в) |
| Yy | Ыы | (ы) |
| Zz | Зз | (з) |
| Źź | — | (з ') |
| Žž | Жж | (ж) |
| Dz dz | Дз дз | (дз) |
| Dž dž | Дж дж | (дж) |
| — | Ее | (jэ) |
| — | Ёё | (jо) |
| — | Юю | (jу) |
| — | Яя | (ja) |

*агульнабеларускі фрыкатыўны гук.
**задненёбны выбухны. Сустракаецца ў запазычаных словах: «гонта», «ганак», «гірса» ды інш.
***эўрапейскае сярэдняе «эль». Сустракаецца ў запазычаных словах: «калёнія», «экалёгія», «клюб».

# Ex libris

Наступныя чатыры кніжкі, якія мы прадстаўляем сёньня ў нашай рубрыцы павіны прыцягнуць ўвагу перш за ўсё прыхільнікаў гістарычнай мінуўшчыны нашага краю.

**Мікола Ермаловіч «Старажытная Беларусь. Полацкі і Навагародскі перыяды».** На сёняшні дзень гэта, бадай, найболей грунтоўная гістарычная праца па азначанаму перыяду беларускае гісторыі, якая ўжо зараз цалкам прыдатна для выкарастаньня ў якасці школьнага падручніка замест цяперашняга ідэялагізаванага сурагата. Галоўная вартасць гэтай кнігі ў тым, што ў ёй нарэшце выкладаецца нескажоная пазбаўленая вялікадзяржаўных догмаў гісторыя старажытнай беларускай дзяржавы. Кніга выдадзена Менскім ведавецтвам «Мастацкая літаратура» накладам 20.000 асобнікаў. Кошт 2руб.40кап.

Літаральна днямі на паліцах кнігарань зьявілася другое перавыданьне яшчэ адной кніжкі гэтага слыннага аўтара — **«Па сьлядах аднаго міфа»** .Як і папярэдняя праца — гэта гістарычнае дасьледаваньне, прысьвечанае пачатковаму перыяду паўстаньня ў50-60-годах 13 ст. Вялікага Княства Літоўскага. На падставе вывучэньня шматлікіх летапісных дакументаў аўтар абвяргае гістарычную догму аб заваяваньні Беларусі літоўскімі феадаламі, пераканаўча даводзіць ўтварэньне ў гэты час першай беларускай дзяржавы. Наклад 11.000 асобнікаў. Кошт 1руб. 20кап.

Спадзяемся, прыхільна сустрэцьмуць чытачы і кнігу вядомага беларускага пісьменьніка Кастуся Тарасава **«Памяць пра легенды. Постаці беларускай мінуўшчыны»**, у якой аўтар у добрым захапляючым стылі апавядае аб найбольш таямнічых для шырокіх колаў чытачоў старонках мінуўшчыны Беларусі. Пісьменьнік уводзіць нас у сьвет паганскіх багоў, прыадчыняе завесу цемры над падзеямі Грунвальдскай бітвы, зьвяртаецца да часоў Міндоўга, малюе зыркія постаці Сімяона Полацкага, Сымона Буднага, Вінцэнта Дуніна-Марцынкевіча.

Трэба закінуць колькі добрых словаў і на адрас выдавецтва «Полымя», якое да свайго гонару здолела надрукаваць высокамастацкі, файны ва ўсіх адносінах паліграфічны твор. Наклад кніжкі 12.000 асобнікаў. Кошт 2руб. 80кап.

Таксама мусім параіць заўзятарам беларускай мінуўшчыны зьвярнуцца да кніжкі **Алеся Краўцевіча «Майстар—наш продак»**, выпушчанай сталічным выдавецтвам «Народная асвета».

Грунтуючыся на шматгадовых археалагічных дасьледаваньнях, навукоўца займальна апавядае аб побыце й занятках нашых продкаў у 14—17 стагодзьдзях.

Зацікаўлены чытач даведаецца, як знайшлі Мірскую ратушу, наведае пагоркі Навагрудчыны, спусціцца ў археалагічныя раскопы Ашмян, Гародні, Навагрудка. Аповяд суправаджаюць дыхтоўныя ілюстрацыі. Наклад 13.000асобнікаў, кошт—усяго 15 кап.

**Мікалай Азарэвіч**

# Passe possible (прайшоўшае магчымае)

Давайце глядзець праўдзе ў вочы: мы жывем у непрадказальным сьвеце, дзе нейкая выпадковая дробязь часам парушае нават самы трывалы парадак рэчаў і раптоўна паварочвае ходу гісторыі ў самым нечаканым кірунку.

Узгадаем, напрыклад, падзеі амаль трохсотгадовае даўнасьці, калі вырашаўся лёс Эўропы дый усяго сьвету.

Што адбылося б, уявіце, калі б малады і гарачы швэдзкі кароль Карл-XII паслухаўся ўсё ж сваіх старых фельдмаршалаў і не паехаў бы адзін у разьведку перад Палтаўскай бітвай? Пэўна, не атрымаў бы кулю ад казачага разьезда, і ў дзень бойкі сам кіраваў бы вайсковымі дзеяньнямі.А што азначала ў тыя часы адсутнасьць ваяводы на полі боя? Амаль стопрацэнтную паразу,замест таго, каб у чарговы раз швэдзкай гвардыі разьбіць Пятровы пацешныя палкі.

І хоць, як кажуць, гісторыя ня церпіць умоўнага ладу,уявім сабе, што ў выніку азначаных падзей лёс нашае старонкі стаўся б зусім іншым...

І загучаў бы на беларускіх вуліцах не «великий русский язык», а вялікі «svensk spräk»і на пытаньне «Talar ni vitrys-ka ?(Вы гаворыце па-беларуску?) гучала б гнеўнае «Jag tycker inte vitrys-ka!»Jag talar bara svens-ka!!» (Мне не падабаецца беларуская мова! Я размаўляю толькі па-швэдзку!!) адэкватнае таму, што мы чуем сёньня:«Говорите на нормальном языке!»

Пры ўсім гэтым, аднак, швэды крыху больш цывілізаваныя ад маскоўцаў, няма ў іх і бальшавікоў, і, мусібыць, швэдзкая акупацыйная адміністрацыя была б больш талерантнай у пытаньнях нацыянальнасьці...

Але ўсё гэта адно бясплённыя летуценьні.Чаго ня было, таго й ня будзе...

Хаця ёсьць, ёсьць адзін спосаб...Абяўляе, значыцца, Беларусь вайну Швэцыі...і адразу ж здаецца на літасьць пераможцы.

Так што — вучыце швэдзкую мову! Яна магла б вам спатрэбіцца (гл. спачатку).

**Наш практыкум:**Як папрасіць у швэда хлеба з чорнай ікрой.

◆.Jag ar hungrig - *Я галодны*

◆.Jag maste tira diet - *Я павінен трымацца дыеты.*

◆.Jag skulle villja ha en portien brott med kaviar scart - *Прынясіце мне лусту хлеба з чорнай ікрой.*

**Зьм.Серабракоў**

✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦

## Беларускі гісторыка-культурны клуб

## «Г О М А Н»

### Запрашае вас на свае паседжаньні штосуботу а 17-й гадзіне у Гарадскі Дом культуры (вул. Камсамольская, 53)

Тэматыка нашых паседжаньняў ахоплівае пытаньні гісторыі і культуры роднага краю, беларускай мовы, фальклёра і этнаграфіі. БГКК рыхтуе й праводзіць абрадавые сьвяты, ладзіць краязнаўчыя вандроўкі па Беларусі і за яе межамі.

Чакаем вас, заўзятары беларушчыны!

✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦

## Крыху сьмеху

### У карчме

—А скажыце, пане карчмар, што вы робіце, як каторы паесьць ды не заплаціць?

—Што мушу рабіць? Выкіну за дзьверы на зламаньне карку!

—О-о-о! То, калі ласка, не дэнэрвуйцеся, я ўжо сам выйду.

### У школе

*Настаўнік:*Пжэчытай!

*Вучань:*V-i-e-p-r-z...

*Настаўнік:*Пжэчытай одразу!

*Вучань:*Парсюк!

### У Берліне

Бяжыць па вуліцы чалавек і крычыць:«Ня трэба нам ўжо больш фюрара!»

Падыходзіць паліцыянт, пытаецца:«Як гэта так, ты крычаў, што нам больш фюрара ня трэба?»

—Так, я й кажу больш ня трэба, бо ўжо адзін ёсьць!

### У вастрозе

*Ксёндз да арыштанта:*

—І чаму, сын мой, ты сядзіш у вастрозе, даўно б мог выйсьці адсюль?

—Так яно і ёсьць, войчанька духоўны. Толькі гэтыя сабакі старажы так моцна трымаюць, што абцуцяканьні няма чаго і думаць

*Перадрукавана з газэты «Шлях Моладзі» за 1938 г.*

**ГОМАН**
Беларуская газэта
Выходзе раз на месяц
Выданьне безганарарнае
Выдавец і рэдактар
А.ЧУГУЕЎ

Адрас для карэспандэнцыі: Беларусь, Бабруйск, Інтэрнацыянальная, 41-41.

Рэдакцыя нясе адказнасьць за дакладнасьць прыведзеных фактаў, прозьвішчаў і найменьняў, за нераспаўсюджаньне зьвестак, што складаюць дзяржаўную і ваенную тайну.

Меркаваньні аўтараў матэрыялаў не абавязкова супадаюць зь меркаваньнем рэдакцыі.

Бабруйская узбуйненая друкарня імя Непагодзіна. Заказ № 3447 . Наклад 999 асобнікаў. Фотанабор.Друк афсэтны.Кошт 30 кап.